*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года    № 24 (611)    2 ЛІПЕНЯ 2003 г.

## Навіны з Маладзечна

10 чэрвеня 2003 года ў Маладзечне адбыўся справаздачна-выбарчы сход сяброў Маладзечанскай гарадской арганізацыі. Варта адзначыць, што сход быў надта напружаным і няпростым. Шмат праблемаў назбіралася, узнік канфлікт паміж некаторымі сябрамі рады гарадской арганізацыі. Па прызнанні саміх радцаў на працягу апошніх двух гадоў амаль ніякай працы ў Маладзечне не вялося. Некаторыя спробы палепшыць сітуацыю з пашырэннем выкарыстання беларускай мовы ў горадзе былі малаэфектыўнымі. У выніку ўся візуальная інфармацыя (акрамя шыльдаў з назвамі вуліц) зроблена з ігнараваннем беларускай мовы. У горадзе працуе толькі дзве сярэднія навучальныя ўстановы з беларускай мовай навучання. На шчасце, прысутныя на сходзе сябры, усвядоміўшы складанасць становішча ў якім апынулася гарадская арганізацыя, здолелі пераступіць цераз свае ўласныя амбіцыі і крыўды, і правялі сход у вельмі канструктыўным рэчышчы. Была абраная новая рада Маладзечанскай гарадской арганізацыі ў складзе 7 чалавек. Ачоліў арганізацыю Трошчанка Уладзімір Міхайлавіч. У склад новай рады быў абраны і галоўны рэдактар папулярнага на Маладзечаншчыне беларускамоўнага выдання "Регіянальная газета" - Алесь Манцэвіч. Падчас сходу ўзнавілі сваё сяброўства ў арганізацыі 9 чалавек, і цяпер агульная колькасць ТБМ-цаў у горадзе складае 47 чалавек.

Кіраўніцтва Таварыства беларускай мовы жадае новай радзе і старшыні Маладзечанскай гарадской арганізацыі плёну ў працы. Упэўненыя таксама, што і былы старшыня Сяргей Юркевіч здолее арганізаваць эфектыўную дзейнасць сябраў моладзевай суполкі на карысць нашай агульнай справе адраджэння беларускай мовы.

*Намеснік старшыні ТБМ*
*Сяргей Кручкоў.*

## Выдадзена ТБМ



***Вяртанне слаўнага імя***

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выпусціла юбілейны каляндарык, прысвечаны выдатнаму дзеячу навукі і культуры Вацлаву Ластоўскаму, якому сёлета, 20 кастрычніка, споўніцца 120 гадоў ад дня ягоных нарадзінаў. Вацлаў Ластоўскі - вядомы гісторык, публіцыст, пісьменнік, літаратуразнавец і грамадска-палітычны дзеяч.

***Да юбілею мовазнаўца***

6 лістапада будзе 120 гадоў з дня народзінаў Язэпа Лёсіка. ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" распачало ўшанаванне памяці празаіка, публіцыста, мовазнаўца, літаратуразнаўца і палітычнага дзеяча выданнем кішэннага каляндарыка на 2003-2004 гг. Выкарыстана фота Язэпа Лёсіка 1930-х гадоў з сямейнага архіву дачкі Алесі Лёсік.

*Дызайн выканаў мастак Ігар Марачкін. Запытвайце памятныя мастацкія каляндарыкі ў сядзібе Таварыства беларускай мовы, што на вуліцы Румянцава, 13 у Менску.*

***Ірына Ляксеева.***

## Віншуем сяброў Таварыства, якія нарадзіліся ў ліпені

Пятра Бацяна
Святлану Бельскую
Уладзіміра Бубешку
Яўгена Васільца
Вінцука Вячорку
Сяржука Гаіко
М.У. Грынько
Сяргея Гуркова
Іну Дрожынаву
Наталлю Зеляткевіч
Паўла Знаўца
Ірыну Кітурку
Валянціну Корзун
Пятра Кухарчыка
Таццяну Місарэвіч
Аляксандра Місцюкевіча
Марыю Млынарчык
Веру Найдзёнаву
Вольгу Нікалаеўскую
Аліну Парда
Таццяну Пашкевіч
Генадзя Пяткевіча
Ядзвігу Раманоўскую
Пятра Русава
Алеся Рымшу
Міколу Савіка
Арцёма Сарокіна
Таццяну Смола
Наталлю Стрыгельскую
Ніну Сыч
Андруся Сяркова
Тамару Талерчык
Веру Траццяк
Генадзя Цыганкова
Васіля Шалупенку
Руслана Шэраверу

## Беларусь развіталася з Васілём Быкавым



**Магіла Васіля Быкава на Ўсходніх могілках Менска**

22 чэрвеня, у гадавіну памяці і смутку па палеглых у другой сусветнай вайне, Беларусь напаткала вялікае гора. Спынілася сэрца салдата, адданага сваёй Радзіме, народнага пісьменніка, сціплага і мудрага Васіля Быкава. Сімвалічна, што яго не стала менавіта ў гэты дзень. Як баец, ён прайшоў ад пачатку і да канца вайны, не раз бачыў смерць, двойчы быў сам паранены. Сваімі неўміручымі творамі на ваенную тэматыку ён здабыў сусветную славу сваёй краіне. Гэта была быкаўская праўда пра вайну. За гэтую праўду ён быў нязручны ўладным структурам. Слава і ганьбаванне ішлі побач праз усё ягонае жыццё. Душэўныя і фізічныя раны падрывалі ягонае здароўе.

Пахаванне Васіля Быкава — апостала Айчыны і сумлення нацыі — адбылося 25 чэрвеня. Гэта падзея ўвойдзе ў найноўшую гісторыю Беларусі, як пахаванне народнага пісьменніка народам. Яно адбывалася так, як таго хацеў сам Васіль Уладзіміравіч і ягоная жонка Ірына Міхайлаўна. Дзесяткі тысяч людзей з кветкамі і жалобнымі бел-чырвона-белымі сцягамі прыйшлі ў Дом літаратара, каб развітацца з вялікім патрыётам. Такая ж палатніна абгарнула труну. Гэта не спадабалася ўрадавай камісіі, і, як сведчаць сродкі масавай інфармацыі, яе старшыня, міністр культуры Ул. Гуляка, пасля адпявання нябожчыка заявіў, што пад такой сімволікай камісія не будзе прымаць удзел у пахаванні. Не было на пахаванні і кіраўніка краіны. Усё гэта ў чарговы раз засведчыла непавагу ўрадаўцаў да асобы Васіля Быкава.

А між тым народ усё прыбываў. Чарга дасягнула нямецкай амбасады.

*(Працяг на 3-й ст.)*

## *Удакладненне*

**У мінулым нумары ў інфармацыі пра ўстаноўку ў Старых Дарогах у прыватным музеі Анатоля Белага памятнага знака Васілю Быкаву была дапушчана тэхнічная недакладнасць. Памятны знак быў устаноўлены вядома ж 19 чэрвеня ў дзень нараджэння В. Быкава.**

**На здымку: барэльеф на памятным знаку работы Ўладзіміра Мелехава.**

**Словам на барэльефе: "Васільком у жыцце Беларушчыны назаўсёды застанецца Быкаў" наканавана стаць прарочымі.**







# Беларусь развіталася з Васілём Быкавым



Развітанне з Васілём Быкавым у Доме літаратара



Жалобная працэсія ў Менску падчас пахавання В. Быкава

З'ехаліся людзі самых розных поглядаў з усіх куточкаў Беларусі, іншых краін. Сярод іх сотні сяброў Таварыства беларускай мовы, кіраўнікі нашых буйных арганізацый. І нягледзячы на тое, што час грамадзянскай паніхіды быў падоўжаны на адну гадзіну, тысячы грамадзян не паспелі развітацца з пісьменнікам. Гэтыя людзі з удзячнасцю прымалі газеты "Наша слова" і "Новы час", якія прапаноўваў прысутным старшыня ТБМ Алег Трусаў. Разышлося амаль 1000 асобнікаў.

Падчас грамадзянскай паніхіды, якую вёў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пашкевіч, у ліку іншых, выступілі Генадзь Бураўкін, Радзім Гарэцкі, старшыня Маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі, прадстаўнік нямецкай грамадскасці. Першым словы ўзяў адзін з блізкіх сяброў пісьменніка паэт Рыгор Барадулін. Як заўсёды, ён выказаўся коратка і ёмка, прачытаўшы ўласны верш. Для Рыгора Барадуліна Бог. маці і Быкаў — гэта тое, што ён пранясе праз усё сваё жыццё. Паэт Генадзь Бураўкін у сваім развітальным слове сказаў, што ён не пагаджаецца з мудрым выказваннем пра тое, што няма прарокаў у сваёй Айчыне. Жыццё і геній Быкава даказвае адваротнае. Васіль Быкаў быў і застанецца пракрокам у Беларусі. Радзім Гарэцкі згадаў грамадскую дзейнасць Васіля Быкава, які стаяў ля вытокаў утварэння Беларускага Народнага Фронту і быў яго духоўным лідарам. "Вялікі беларус, ён поўнасцю аддаў сябе дзеля росквіту Беларусі. Праз сотню гадоў наш час назавуць эпохай Васіля Быкава", — зазначыў акадэмік Гарэцкі.

Труну з целам Васіля Быкава неслі на руках ад Дома літаратара да плошчы Якуба Коласа. Народ упершыню прадэманстраваў, як трэба ўшаноўваць вялікіх сыноў краіны. Амаль 9 кіламетраў прайшлі людзі да Усходніх могілак з кветкамі, вянкамі і сцягамі.

Магіла Васіля Быкава знаходзіцца пры ўваходзе злева. насупраць пахавання Івана Чыгрынава. На месцы апошняга прыстанку пісьменніка ўзвышаецца гара з жывых кветак і вянкоў.

Беларусь развіталася з геніем. Але духоўна ён будзе заўсёды з намі ў сваіх творах. Смерць зрабіла нас іншымі. Яна паяднала партыі, рухі, згуртавала беларускую нацыю і засведчыла, што жыве дэмакратычная інтэлектуальная Беларусь.

*Ірына Ляксеева.*
*Здымкі Уладзіміра Хрышчановіча.*



Жалобная працэсія ў Менску падчас пахавання В. Быкава



Жалобная працэсія ў Менску падчас пахавання В. Быкава

## СПАЧУВАНЬНЕ

*Нью-Ёрк, 23 чэрвеня 2003 г.*

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне ды Кааліцыя ў Абарону Дэмакратыі й Правоў Чалавек ў Беларусі выказваюць сям'і сьветлай памяці Васіля Быкава і ўсім, хто смуткуе з прычыны ягонай сьмерці, шчырыя спачуваньні.

Памяць пра памерлага будзе вечнай, бо Васіль Быкаў, як беларус і як пісьменьнік паставіў свой шчодры талент і сваю валатоўскую працавітасьць на службу вечна каштоўным ідэалам - мастацкай праўдзе ды чалавечай і нацыянальнай годнасьці.

Васіль Быкаў, як ніхто зь ягоных папярэднікаў, паставіў на карту сьвету імя Беларусі ды імкненьні беларусаў да свабоды, дэмакратыі й дабраабыту.

Імя Васіля Быкава будзе вечна жыць у сэрцах нашчадкаў. Па кнігах пісьменьніка яны будуць пазнаваць мінуўшчыну свайго народу ў ягонай абароне няўміручасьці Бацькаўшчыны.

**Падпісалі:** Вітаўт Кіпель,
Антон Шукелайць,
Аляксандар Сільвановіч,
Янка Запруднік.

## Спачуваньне-развітаньне з Васілём Быкавым

Трагічная вестка прыйшла да беларусаў Канады.

Зь вялікім болем яна адгукнулася ў нашых душах.

Перастала біцца Сэрца Васіля Быкава.

Сэрца - якое асьвятляла Шлях усім беларусам, дзе б яны не жылі.

Тут за мяжой, у шматнацыянальнай Канадзе, мы ганарымся, што мы - суайчыйньнікі Васіля Быкава.

Ён – наш нацыянальны гонар, нашае сумленне і нашая памяць.

У гэты трагічны для нас час, сябры Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Канадзе схіляюць галовы і далучаюць свае глыбокія спачуваньні да галасоў з усіх канцоў сьвету ў падтрымку жонкі, Ірыны Міхайлаўны, і ўсіх родных і блізкіх Васіля Быкава, тых, хто ведаў і любіў яго і ягоныя творы.

Ваш боль – наш боль.

**За сяброў БІНіМу ў Канадзе падпісалі:**
Старшыня БІНіМу ў Канадзе: Зіна Гімпялевіч;
Сакратар БІНіМу ў Канадзе: Ірына Верабей.

*Музычная рэтраспектыва*

# Так пачыналя легенда "N.R.M."

Вядома, што любімы беларускай моладдзю гурт "N.R.M." хутка адзначыць свой дзесяцігадовы юбілей. А колькі ж будзе "N.R.M.", калі ўлічваць і творчы стаж гурта "Мроя" — легендарнага яго папярэдніка? Але хай пра гэта думаюць самі музыкі...

Мы ж адзначым, што




гурт "N.R.M." дзесяць гадоў таму пачынаўся з першых альбомаў "La-La-La-La" і "Одзірыдзідзіна". Нажаль, з іх стылявымі асаблівасцямі музычныя крытыкі знаёмілі слухачоў не шмат. Вось гэты прабел і вырашылі мы ліквідаваць. Няхай гэтыя рэтраспектыўныя нататкі стануць падарункам да юбілею каманды разам з трыб'ютам гурта "N.R.M.", які будзе выдадзены ў хуткім часе БМА-group.

Пасля таго, як культавая "Мроя" ў 1994 годзе магічна перарадзілася ў новы гурт "N.R.M.", шматлікія прыхільнікі беларускага хард-року набылі сатысфакцыю ў выглядзе новай, але пакуль малавядомай музычнай фармацыі. І наступным пытаннем, нават загадкай для фанаў было тое, а што ж прапануе ім "N.R.M." у якасці знаёмства? Адказ на яго быў дадзены ў выглядзе альбома з несур'ёзнай назвай "La-La-La-La".

Памятаю, як сам – стары прыхільнік "Мроі", з трымценнем у сэрцы ставіў на прайгравальнік першы "энэрэмаўскі" альбом, да зместу якога было столькі пытанняў. Хто такі гэны тып — Піт Паўлаў? Як справы ў яго з гітарным ўзроўнем? Ці не знікне з гучання новага гурта тое, што мы так любілі ў "Мроі" – патрыятычнасць, беларускіх духы гук роднага стод-року? Ці будзе "N.R.M." адпавядаць новаму гучанню, якое ўжо пачало дамінаваць у свеце пад уплывам сіетлаўскага саўнду і яго найярчэйшага прадстаўніка і лідара – гурта "Nirvana"?

Першы ж нумар альбома "Белыя лебедзі" паабяцаў і старыя сустрэчы з фальклёрнымі крыніцамі і ўплывамі, і новы пост-гранжавым гук. Да таго ж, гітарыст Піт Паўлаў ужо тады граў ў складзе "N.R.M." абсалютна арганічна, нават больш дасканала чымсці віртуоз В. Смольскі, які граў у "Мроі" апошнім часам...

Што ж тычыцца, патрыятызму, то яго асэнсаванне ў "N.R.M." набыло філасофскае адценне з элементамі крытыцызму: "Нацыя, нацыя, дзе розум твой, дзе рацыя?" ("Нацыя"), "Чакала дарога, чакала дарога нас, а мы гэтым часам бесклапотна пілі смачны квас..." ("Дарога"). Але ад гэтага не прытупілася вастрыня думак і арыгінальных паэтычных вобразаў аўтарства нязменнага Лявона Вольскага. Дарэчы, яго голас займеў на альбоме новыя незвычайныя тэмбры. Пры гэтым дынамічныя перапады ад гроўлу да дысканту абяцалі, што Лявон яшчэ праявіць сябе ў экстрэмальнай стылістыцы напоўніцу.

На альбоме "La-La-La-La" яшчэ было і тое, за што крытыкавалі старую «Мрою» — за дыдактызм у тэкстах і няшчыльнасць аранжыровак. Таму не толькі новыя якасці, але і старыя хібы праявіліся на гэтым альбоме абноўленага гурта: «Паглядзі, што вакол, гэты сьвет супраць нас...» Здаецца, нешта такое мы ўжо неаднойчы чулі з "мроеўскага "рэпертуару. А гэта з песні «Мітусьня». Зрэшты, яна стала своеасаблівым палігонам для далейшага стылістычнага пошуку. Гітарныя сола Піта ў псіхадэлічным стылі ды алеатарычныя вакальныя экзерсісы Лявона гавораць пра пошук таго саўнду, які «закаціць» і старым, і новым слухачам гурта. Тое ж можна казаць і пра твор з правакацыйнай (у станоўчым сэнсе) назвай "Бацька". Тут псіхадэл дамінуе не толькі ў музыцы і аранжыроўцы, але і з'яляецца лейтматывам песенькі.

Затое, рок-н-рольныя тэмы з фолк-рытмам з часоў "Вёскі Дзягцяроўкі" ды "Аўстралійскай polькі", толькі дадавалі гурту аптымізму і ўвагі слухачоў. Можа таму злосная песенька "Зомбі" і сёння ўспрымаецца слухачамі на "ўра". Гэтая кампазіцыя напоўнена метафарычнымі прароцтвамі, якія папярэджвалі нараджэнне эпохі антынацыянальнага рэваншызму ў Беларусі. Як і іншыя "энэрэмаўскія" рок-н-рольныя хіты альбома: "Халі-галі" дый "Ла-Ла-Ла-Ла" (на словы Міхаіла Анемпадыстава). З цягам часу апошняя стала адной з самых заўважных кампазіцый на дыску супольнага праекту "Народны альбом".

Сапраўдным жа прарывам, бадай, новым словам у беларускай рок-музыцы стала, на першы погляд, несур'ёзная песня "Трактар". У ёй можна пачуць тое, што стала дамінаваць у творчасці гурта "N.R.M." больш пазнейшага ўзору – хітовыя мелодыя, якая пакладзена на "цяжкія" гітары і выбуховыя бубны. У той жа час, стылістыка спявання "Трактара" больш нагадвала чытанне рэпу ў гурце, якія арыентуецца на hard-core. Дый мелодыка кампазіцыі "N.R.M." манатоннапавольная, з арсеналу industrial'у, у той жа час, з выразнымі "мэталічнымі" акцэнтамі. Нездарма ж, гэтая кампазіцыя ўважалася прыхільнікамі навамодных hard-core і industrial, як за ўзорную па стылістыцы і аранжыроўцы і неаднойчы калькавалася ў выглядзе кавераў...

Безумоўна, першы альбом гурта "N.R.M." "La-La-La-La" адрадзіў надзею прыхільнікаў беларускамоўнай цяжкай рок-музыкі на тое, што іх чакаюць новыя адкрыцці ў выглядзе творчасці "N.R.M." — спадкаемцы гурта "Мроя".

Наступны крок гурта "N.R.M." быў выяўлены праз год, калі свет пабачыў бадай самы амбіцыёзны (зноў жа ў станоўчым сэнсе) альбом гурта сярэдзіны 90-х – "Одзірыдзідзіна". Гэты альбом утрымліваў многія постмадэрнісцкія эксперыменты, якія потым сталі візітоўкай гурта, а таксама стаў пачаткам інтэлектуальнага і музычнага брэнду гурта "N.R.M.".

Ну, сапраўды, з гэтага альбома, мяркую, пачалася рэалізацыя ідэі Незалежнай Рэспублікі Мроя і паўстанне яе сімвала – вольнай птушкі Одзірыдзідзіны, пачалася палітычная кар'ера яе першых грамадзянаў – міністра турызму і адпачынку (бубнача Алега Дземідовіча), міністра па барацьбе з карупцыяй (басіста Юрася Ляўкова), міністра прапаганды (гітарыста Піта Паўлава) і міністра працы і адпачынку (тэкставіка, гітарыста і вакаліста гурта Лявона Вольскага). "Дзікая




энергія гітарыстаў, усепранікальная магутнасць патрыятычнага пафасу, слёзы пасля праслухоўвання "Партызанскай" і жаданне пайсці на бясплатныя курсы ды-джэя беларушчыны..." Вось такімі іранічнымі адзнакамі суправаджаў жыццё гэтага альбома гурта "N.R.M." беларускі часопіс "Post`R". Але ў іх ёсць і рацыя: энергічная і бударажная музыка гурта вельмі ўплывала на светапогляд тых, хто пасля складаў аснову "Маладога фронту", "Маладой грамады", "Зубра"...

Так, гэты альбом прапанаваў беларускім слухачам нізку канцэптуальных гітоў, якія яшчэ доўгія гады будуць вызначаць адносіны да творчасці гурта, незалежна ад сэнсу і стылістыкі наступных альбомаў.

Першы з такіх гітоў – "Партызанская" песня. Яе ўпадабалі тыя, хто асэнсаваў сваё становішча, як жыццё пасярод антыбеларускай Матрыцы. Бо яна апанавала ўсе бакі чалавечага і грамадскага жыцця (TV, FM, друк, школа, ВНУ, войска, урадавыя ўстановы), дзе шматаблічныя "агенты Кузнецовы" вышчэрваюцца з абалонкі кожнага паспалітага беларуса. "Партызанская" – музычны сцяг тых маладых хакераў, якія больш за жыццё сцерагуць і абараняюць свой беларускі Зыён. Што казаць пра гэтую моц, калі Беларускае тэлебачанне трансявала тэлевізійную версію твора з мэтай прыцягнуць увагу моладзі да перадвыбарчых праграм кандыдатаў ад улады...

З гэтага кшталту і энергічная кампазіцыя "Мы самі па сабе". Вядома, "Самі па сабе" – пераклад назвы вядомай ірландскай незалежніцкай партыі "Шын Фэйн". Але ў песні "N.R.M." больш развагаў і веры адносна таго, што перамены і ў нас абавязкова адбудуцца: "Не палюбіць мне чужую краіну/ Не зразумець мне варожых людзей/ І не пазбегнуць удара ў спіну/ І не праспаць гістарычных падзей!

Адзін з самых папулярных гітоў альбома "Одзірыдзідзіна" – "Песня падземных жыхароў". Шмат разоў даводзілася бачыць, як пад яе акорды браталіся і маладафронтавец, і прыхільнік расейскага "КиШа", рэпер і панк з "металістам"...Бо ўсе гэтыя прадстаўнікі моладзевай субкультуры, палітычных суполак учора і сёння знаходзяцца калі не ў апазіцыі да рэальнасці, дык дакладна ў глыбокім андэграўндзе – у культурным і сацыяльным "падзямеллі". Там свае законы, сімвалы, ідэалы і гімн – "Песня падземных жыхароў".

Кантрастам рытмічным і энергічным "энэрэмаўскім" творам трэба адзначыць геніяльную ў сваёй дэпрэсіўнасці песню Л. Вольскага "Лепей ня будзе". Сапраўды, павярхоўны сэнс твора – падстава для суму ў самоце. Але калі супердасканалая мелодыя твору прымушае праслухоўваць яе па некалькі дзесяткаў разоў, то адбываецца цуд – мінорная мелодыя контраверсіўна нараджае пачуццё здаровага жыццёвага аптымізму. Амаль адпаведна стратэгіі "Адверза" са старажытнаіндыйскай філасофіі: каб пераадолець жыццёвыя цяжкасці, трэба рыхтавацца да горшага. Таму зразумела, пра што так пранікнёна спяваецца ў гэтай песні: "Лепей ня будзе, будзе толькі горш/ Ад панядзелка льецца дробны дождж./ Мора ня будзе, будзе толькі порт./ Бедныя людзі, бедны наш народ."

І як працяг тэмы песімізму і аптымізму – фінальны твор альбома: дурнаватая, але вясёлая песенька "Одзірыдзідзіна", куплет з якой : "Мы закрычым: на абардаж!/ І гэты горад будзе наш." стаўся нават слоганам палітычнай дзейнасці моладзевых дэмакратычных арганізацыяў.

Магчыма, гэтая акалічнасць і спрыяе таму, што афіцыёзам гурт аніяк не прызнаецца за культурную падзею, ігнаруецца з боку сродкаў масавай інфармацыі. Але гэтыя альбомы гурта жывуць сярод беларускай моладзі, нагаваюць ім: не ўсё тое золата, што транслюецца па БТ і гучыць на святочных канцэртах у Палацы Рэспублікі.

*Анатоль Мяльгуй.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, , Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 30. 06. 2003 г.
Наклад 2200 асобнікаў. Замова № 1705.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
*Кошт у розніцу:* 175 руб. (у Менску - 185 руб.)